Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Зьмітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Пятніца, 29 студзеня 1999 г. № 10 (541) Кошт свабодны

## Заява Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў

25 снежня 1998 года прэзідэнты Беларусі і Расіі падпісалі ў Маскве заяву і дэкларацыю пра аб'яднанне дзвюх краінаў у так званую «саюзную дзяржаву». Мы разглядаем гэты акт як рэальную пагрозу дзяржаўнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Стварэнне «адзінай» расійска-беларускай дзяржавы будзе значыць на практыцы далучэнне Беларусі да Расіі.

Зьмяненне дзяржаўнага статусу Рэспублікі Беларусь з'яўляецца не чым іншым, як ігнараваннем нацыянальных інтарэсаў і не можа лічыцца легітымным, бо супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Будучыню нашай Бацькаўшчыны мы бачым у незалежнай, дэмакратычнай, нейтральнай і бяз'ядзернай Беларусі. Толькі ў такой дзяржаве беларускі народ атрымае магчымасць годнага заможнага жыцця. Як казаў яшчэ 80 гадоў таму Янка Купала, «толькі адна дзяржаўная незалежнасць можа даць і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу».

*Прынята 27 студзеня 1999 г.*

## Урад шукае грошы

**2 лютага ў Мінск прыбывае чарговая місія Міжнароднага валютнага фонду пад кіраўніцтвам намочніка дырэктара другога еўрапейскага ўпраўлення Томаса Вольфа. Эксперты МВФ працягнуць перамовы з беларускім урадам аб прадастаўленні дапамогі ў рамках кампенсацыйнага надзвычайнага фінансавання.**

Місія МВФ, якая вывучала сітуацыю ў нашай краіне ў лістападзе мінулага года, устанавіла, што расійскі крызіс аказаў сур'ёзны ўплыў на беларускую эканоміку. Нашая краіна можа разлічваць прыкладна на 100 мільёнаў долараў. На гэты раз эксперты МВФ збіраюцца цікавіцца грашова-фінансавай і бюджэтнай палітыкай беларускага ўрада, які пастаянна адмаўляецца ад рэцэптаў МВФ па радыкальных рынкавых рэформах. Фонд спадзяецца дамагчыся лібералізацыі валютнай палітыкі і ўстанаўлення адзінага курса беларускага рубля.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Суд зачыніў дзверы

**Працэс над былым старшынёй калгаса «Рассвет» Васілём Старавойтавым ідзе на гэтым тыдні за зачыненымі дзвярыма.**

Гэтае беспрэцэдэнтнае ў практыцы разгляду крымінальных справаў рашэнне калегія Кіраўскага суда на чале з Надзеяй Чмара прыняла ў аўторак. Суддзя заявіла, што выдаленне з залы прадстаўнікоў грамадскасці — мера часовая. Дзверы будуць зачыненыя, пакуль ідзе медыцынская экспертыза псіхічнага стану Васіля Старавойтава. Нагадаем, што правядзенне гэтай экспертызы непасрэдна ў зале суда — таксама беспрэцэдэнтны выпадак. Між тым прадстаўнік Беларускага Хельсінкскага камітэта Гары Паганяйла называе «надуманымі» падставы, якія суддзя выкарыстала для часовага абвяшчэння працэсу закрытым.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Чыноўнікі просяцца на Захад

**Дырэктару прэзідэнцкага дэпартамента па гуманітарнай дапамозе Віктару Кучынскаму адмовілі ва ўязной візе ў Германію. Лукашэнкаўскі памочнік збіраўся прыняць удзел у канферэнцыі па беларуска-нямецкім супрацоўніцтве.**

Нагадаем, што Віктар Кучынскі трапіў у спіс 130-ці чыноўнікаў, да якіх Еўрапейскі саюз прымяняе візавыя санкцыі пасля высялення паслоў з рэзідэнцыяў у комплексе Драздзы. Па словах аднаго замежнага дыпламата, гэтыя санкцыі будуць дзейнічаць яшчэ некалькі тыдняў, нягледзячы на вяртанне паслоў ЕС у Беларусь. Скасаваць «чорны спіс» можа толькі кіраўніцтва Еўрасаюза, якое пакуль не разглядала гэтае пытанне.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## 16 мая 1999 года – день выборов президента Республики Беларусь

Постановлением № 7 Центральной комиссии по выборам Президента Республики Беларусь от 16 января 1999 года создан внебюджетный избирательный фонд для добровольного перечисления средств общественных объединений, предприятий, учреждений, организаций и граждан на проведение выборов Президента Республики Беларусь.

Реквизиты внебюджетного избирательного фонда: лицевой счет № 021-17765 в филиале 0111 Приорбанка г.Минска р/с 3819102280020, код 228

**Выборы президента Республики Беларусь зависят от Вашего выбора.**

# Далей так жыць нельга!

У Мінску ўсё ж прайшла даволі масавая акцыя пратэсту, арганізаваная дзяржаўнымі прафсаюзамі разам са Свабодным прафсаюзам, і прафсаюзам металістаў. Падобная акцыя планавалася на 2 снежня мінулага года, але была адкладзеная: тады дзяржаўныя прафсаюзы паверылі абяцанням урада. Хутка прыйшло расчараванне, і лідэры пяці самых актыўных прафсаюзаў заклікалі рабочых на вуліцы. Заклік быў пачуты. Па розных падліках, у шэсцях на вуліцах Мінска і выніковым мітынгу ўдзельнічала ад 10 да 18 тысячаў чалавек. Гэта былі рабочыя трактарнага, аўтамабільнага, шарыкападшыпнікавага, прыборабудаўнічага і іншых заводаў сталіцы, а таксама пасланцы салігорскіх шахцёраў, рабочыя з Ліды і Маладзечна. Аб салідарнасці з рабочымі заявілі і 60 тысяч прадпрымальнікаў, якія ў той дзень спецыяльна не выйшлі на працу (звесткі ад рэспубліканскага прафсаюза прадпрымальнікаў).

Прамоўцы на мітынгу абураліся падзеннем жыццёвага ўзроўню ў два — тры разы ды папярэджвалі, што іх цярпенне канчаецца, і калі кіраўніцтва краіны «не павернецца да рабочых тварам», рабочыя паставяць пад пытанне «дзеяздольнасць урада». На першы выпадак рабочыя даюць ураду тэрмін да 30 сакавіка. За гэты час міністрам загадана спыніць рост цэнаў, павялічыць заробкі і пенсіі, знізіць падаткі і ўвогуле выканаць усе абяцанні, што былі дадзеныя на працягу апошніх гадоў. З патрабаванняў варта выдзеліць яшчэ прэтэнзіі да дзяржаўных СМІ: «Надакучыла чуць пра рост нашага дабрабыту ад Лукашэнкі, Пракаповіча і Зімоўскага. Дайце нам самім сказаць пра сваё жыццё!» — патрабавалі рабочыя.




*Удзельнікі шэсця. Мінск 27 студзеня 1999 г.*

Прагучалі на мітынгу і прэтэнзіі асабіста ў адрас прэзідэнта. Прамоўцы паракалі яго за тое, што «падмануў» і цягне «не туды» ды нагадвалі пра сканчэнне тэрміну прэзідэнцтва. Частка ўдзельнікаў мітынгу, прыхільнікі Свабодных прафсаюзаў, неаднаразова скандзіравалі на адрас Лукашэнкі: «У адстаўку!».

«Дзяржаўныя прафсаюзы актывізаваліся не самі па сабе, а пад уплывам настрояў рабочых. Пачалася нават палітызацыя прафсаюзаў, хоць на рашучую барацьбу яны ўсё роўна не здольныя. Іх чарговы «ультыматум» — як тысяча першае кітайскае папярэджанне. А роля тарана, які будзе разбіваць сцяну вакол рабочых, па-ранейшаму за недзяржаўнымі прафсаюзамі», — гэтак пракаментавала падзеі намеснік старшыні Свабоднага прафсаюза Ірына Жыхар. Між тым кіраўнікі дзяржаўных прафсаюзаў, што прынялі ўдзел у мітынгу, высока ацэньваюць актыўнасць рабочых. «15 тысяч рабочых, што прыйшлі на мітынг, — гэта, безумоўна, поспех прафсаюзаў і сведчанне таго, што народ сапраўды абураны палітыкай урада. Калі нічога не зменіцца, мы будзем патрабаваць адстаўкі ўрада і ўпэўненыя, што нас падтрымаюць куды больш людзей», — заявіў НАВІНАМ адзін з арганізатараў прафсаюзнай акцыі Аляксандр Бухвостаў.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Пажар у картэжы Беразоўскага

**Непрыемнае здарэнне адбылося напрыканцы візіту ў Мінск выканаўчага сакратара СНД Барыса Беразоўскага.**

Падчас руху яго картэжа ў аэрапорт загарэлася адна з машын суправаджэння.

Выканаўчы сакратар Садружнасці прылятаў у Беларусь на адзін дзень дзеля сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам. Пасля яе заканчэння Беразоўскі правёў кароткую прэс-канферэнцыю і накіраваўся ў аэрапорт, дзе яго чакаў самалёт на Варшаву. Аднак не паспеў картэж Беразоўскага праехаць некалькі соцень метраў, як з адной машыны густа паваліў дым. Гэта здарылася каля будынка адміністрацыі беларускага прэзідэнта. Па словах супрацоўнікаў Савета бяспекі, кіроўца і ахоўнікі Беразоўскага, якія знаходзіліся ў салоне аўтамабіля (сам Барыс Абрамавіч ехаў у іншай машыне), выбеглі на вуліцу і пачалі тушыць свой «Мерседэс». З будынка прэзідэнцкай адміністрацыі ім на дапамогу рушылі паставыя міліцыянты. Рух картэжа быў спынены, а на месца здарэння выклікалі пажарную машыну.

Беразоўскі, які вельмі спяшаўся, не стаў чакаць прыезду пажарных. Пакінуўшы на дарозе машыну, якая яшчэ дымілася, картэж паехаў далей. Пажар, які, па словах прадстаўніка Савета бяспекі, быў выкліканы дэфектам электраправодкі «Мерседэса-300», ліквідавалі паставыя міліцыянты. Чаму загарэлася электраправодка ў новай машыне — пакуль невядома.

**А.Н.**

# Галодны для сытага – небяспечны!

**Адзін год зняволення ў калоніі строгага рэжыму, — такі прыгавор вынес у аўторак райсуд горада Ганцавічы 40-гадоваму рабочаму Іосіфу Варвашэвічу. Суд прызнаў яго вінаватым «у пагрозе замаху на жыццё службовай асобы».**

Нашая газета ўжо пісала, што амаль два месяцы таму ў Варвашэвіча адбыўся канфлікт з начальнікам Ганцавіцкай ПМК № 7 Іванам Гарупічам. Жонка Варвашэвіча, рабочая гэтай ПМК, працавала на будоўлі ў Расіі і некалькі месяцаў не атрымлівала зарплату. Занепакоены муж запатрабаваў у начальніка неадкладна вярнуць яе дадому.

Спрэчка перарасла ў сварку, падчас якой Іосіф неабачліва паабяцаў свайму шэфу «адарваць галаву», калі той не верне жонку. Начальнік выклікаў міліцыю і абвінавацію рабочага ў замаху на сваё жыццё. Іосіфа арыштавалі і амаль два месяцы да суда ён правёў у Баранавіцкім СІЗО.

Судовы працэс па гэтай справе цягнуўся ўсяго адзін дзень. Суддзя Іван Мішкевіч заслухаў паказанні некалькіх рабочых ПМК, якія таксама ездзілі ў падобныя камандзіроўкі і працавалі там фактычна бясплатна. Пацярпелы Гарупіч распавёў суду аб пагрозах з боку Варвашэвіча яго бясцэннаму здароўю. Адвакат падсуднага Любоў Халецкая і грамадскі абаронца ад Свабоднага прафсаюза Уладзімір Малей прасілі суддзю апраўдаць Варвашэвіча за адсутнасцю ў яго дзеяннях складу злачынства. Маўляў, проста пагарачыўся чалавек. Аднак пракурор Сяргей Туравец запатрабаваў для Варвашэвіча год калоніі, бо лічыць яго небяспечным для грамадства. Пракурорская просьба была ўлічаная судом, і цяпер Іосіф, на папячэнні якога знаходзіцца жонка (звольненая з працы пасля арышту мужа) і чацвёра непаўналетніх дзяцей, правядзе год за кратамі.

Па словах абаронцаў Варвашэвіча і прадстаўнікоў Хельсінкскага камітэта, суд праходзіў з грубымі парушэннямі працэсуальнага кодэкса. Так, некаторыя з прысутных на працэсе сцвярджаюць, што пацярпелы начальнік Гарупіч, пракурор Туравец і суддзя Мішкевіч падчас перапынку мелі працяглую гутарку за зачыненымі дзвярыма. Пра што там ішла гаворка, можна толькі здагадвацца.

Абаронцы Іосіфа Варвашэвіча не пагадзіліся з вынесеным прыгаворам і збіраюцца абскардзіць яго ў Брэсцкім абласным судзе.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Дзеля Дажынак пашыраць Дняпро

**Велізарныя сродкі выдаткоўваюцца на рэканструкцыю «прэзідэнцкага» райцэнтра Шклоў, каб падрыхтаваць яго да святкавання сёлетніх Дажынак.**

План падрыхтоўкі да сёлетняга свята, зацверджаны добрым тузінам міністраў беларускага ўрада, паступіў у Шклоўскі райвыканкам для выканання.

Агульны бюджэт усіх работ — 7,3 трыльёна рублёў. На гэтыя грошы будзе пабудаваны новы аўтавакзал, пашырыцца гарадскі стадыён, пройдзе рэканструкцыя фабрычнай лазні, а таксама будуць збудаваныя некалькі новых шматпавярховых дамоў у цэнтры Шклова. А яшчэ ў райцэнтры з'явіцца дэбаркадэр, і падчас Дажынак па Дняпры пачнуць курсіраваць цеплаходы, для чаго прадугледжана пашырыць русла ракі.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Урачыстасці без прэзідэнта

**У сціплай сямейнай атмасферы адзначыла 24 студзеня сям'я Лукашэнкаў 44-ы дзень нараджэння Галіны Радзівонаўны, жонкі прэзідэнта Беларусі.**

Галава сям'і адсутнічаў на сямейных урачыстасцях не ў першы раз. Імянінніцу віншавалі толькі сыны Віктар і Дзмітрый.

**Іван ЗАСАДА**

## Ўсё больш людзей не працуе

**На 23% узрасла афіцыйна зарэгістраваная колькасць беспрацоўных у Магілёўскай вобласці ў параўнанні з пачаткам мінулага года.**

Больш за 6.000 чалавек не маюць працы і атрымліваюць дапамогу па беспрацоўі — гэта амаль 3% усяго насельніцтва вобласці. На кожнае працоўнае месца прыходзіцца чатыры кандыдаты. Расце беспрацоўе найперш за кошт моладзі, якая складае палову ўсіх беспрацоўных.

Супрацоўнікі службы занятасці канстатуюць, што цяжэй за ўсё знайсці працу людзям з нізкай працоўнай кваліфікацыяй, якія не могуць прэтэндаваць на прэстыжную высокааплатную працу. Па звестках службы занятасці, 1.219 беспрацоўных здолелі знайсці працу, атрымаўшы новую спецыяльнасць.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Лібералы не пойдуць на мясцовыя выбары

**Аб'яднаная грамадзянская партыя не будзе ўдзельнічаць у выбарах у мясцовыя саветы. Гэткае рашэнне было прынятае Нацыянальным Камітэтам АГП на апошнім паседжанні.**

Паводле пастановы, асобныя сябры партыі могуць браць удзел у выбарах, — але выключна як прыватныя асобы. У гэтым выпадку яны абавязаныя прыпыніць сяброўства ў АГП. Такім чынам, назва "Аб'яднаная грамадзянская партыя" не будзе фігураваць у выбарчых бюлетэнях.

Пытанне аб тым, якую кандыдатуру будуць падтрымліваць лібералы на прэзідэнцкіх выбарах, вырашыць з'езд АГП, які, згодна з рашэннем Нацыянальнага Камітэта, адбудзецца 27—28 лютага.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

## Структурам ТБМ прапануецца

Сакратарыят ТБМ рэкамендуе кожнай Радзе падаць заяўку на правядзенне акцыі ў сваім раёне (горадзе). Заяўка падаецца ў мясцовыя органы выканаўчай улады за 16 дзён да правядзення акцыі. Да заяўкі дадаецца копія пратакола паседжання выканаўчага органа суполкі, на якім прымалася рашэнне аб пікеце, а таксама выпіска з гэтага пратакола. Акрамя таго, варта прыкласці да дакументацыі копію пасведчання аб рэгістрацыі. Рэкамендуецца правесці акцыю 13 і 14 лютага.

На пікетах ужываць плакаты, напрыклад: «Не! — штучнай русіфікацыі», «Перапіс па-беларуску!», «Перапіс — бяскроўнае знішчэнне беларускага народа», «Абаронім родную мову!»

Раздаваць людзям, а таксама разносіць улёткі па паштовых скрынях.

## Жодзіна пікетуе

**У Жодзіне адбыўся пікет актывістаў мясцовых дэмакратычных арганізацыяў.**

Ініцыятарам пікета выступіла жодзінская суполка БНФ, да якой далучыліся дэмакраты з «Народнай Грамады». Увагу прахожых прыцягвалі плакаты і лозунгі: «Чым Саюз цясней-шы, тым народ бяднейшы», «Лукашэнку і яго памагатым — зарплату рабочых і сялян». Як паведамілі НАВІНАМ удзельнікі пікета, падчас акцыі каля 40 чалавек запісалася ў грамадзянства БНР.

Мясцовая міліцыя на чале з намеснікам начальніка не перашкаджала правядзенню акцыі, аднак акуратна рабіла відэазапіс і фотаздымку падзеі.

**Г.Ш.**

## Мытная служба мацуе бюджэт

У 1998 годзе мытнымі органамі Беларусі пералічана ў рэспубліканскі бюджэт 28,6 трлн. рублёў, што склала 20 працэнтаў яго даходнай часткі. Пра гэта 26 студзеня на прэс-канферэнцыі, прымеркаванай да Сусветнага Дня мытні, паведаміў намеснік старшыні Дзяржаўнага мытнага камітэта Уладзімір Гошын.

Пры гэтым у 1997 годзе ад мытнікаў у рэспубліканскі бюджэт паступіла каля 19 трлн. рублёў, што тады склала каля 30 працэнтаў яго даходнай часткі. Змяншэнне долі мытных плацяжоў у бюджэце тлумачыцца, па словах У.Гошына, паляпшэннем працы падатковай інспекцыі і павышэннем унутранай збіральнасці падаткаў, а таксама наступствамі расійскага фінансавага крызісу. Груза- і таварапатокі на заходніх межах Беларусі паступова аднаўляюцца і толькі сёння выходзяць на паказчыкі, блізкія да дакрызіснага перыяду.



IREX/ProMedia

Колькі грошай плануецца атрымаць ад дзейнасці мытных службаў у рэспубліканскі бюджэт у 1999 годзе, У.Гошын не сказаў, спаслаўшыся на тое, што «дакумент яшчэ канчаткова не зацверджаны». Аднак, па яго словах, гэтая сума будзе «ў некалькі разоў большая», чым летась.

*БелаПАН*

## Ажыве цуд неаготыкі

**Косаўскі палац, які знаходзіцца ва ўрочышчы Марачоўшчына Івацэвіцкага раёна, пераходзіць ва ўласнасць вытворчага аб'яднання «Саюзтэхсервіс».**

Гэты велічны палац, адзін з найпрыгажэйшых у Брэсцкай вобласці помнікаў архітэктуры 19 стагоддзя, дагэтуль заставаўся без гаспадара. У 80-я гады міністэрства сельскай гаспадаркі БССР мела намер зрабіць тут санаторый, аднак мяркуемыя затраты аказаліся празмерна вялікімі. Затым вытворчае аб'яднанне «Інтэграл» збіралася стварыць у будынку палаца базу адпачынку, аднак на гэты раз улады не далі сваёй згоды.

І вось нарэшце гэты архітэктурны помнік можа набыць гаспадара. У Брэсцкі аблвыканкам паступіла прапанова ад Івацэвіцкага райвыканкама, вытворчага прадпрыемства «Саюзтэхсервіс» і Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры міністэрстве культуры Беларусі аб перадачы палаца «Саюзтэхсрвісу» *«з мэтай прыцягнення пазабюджэтных інвестыцыяў для рэстаўрацыі палацава-паркавага ансамбля, а таксама аднаўлення маёнтка Тадэвуша Касцюшкі».* Абласныя ўлады падтрымалі прапанову, і калі Савет Міністраў Беларусі пагодзіцца з рашэннем аблвыканкама, то ў 10-гадовы тэрмін прадпрыемства «Саюзтэхсервіс» павінна будзе выканаць увесь комплекс рэстаўрацыйных работ па аднаўленні гэтага гістарычнага помніка.

*БелаПАН*

## У Курапатах збіраюцца паставіць помнік

**Днямі ў Мінску створаны грамадскі камітэт па ўзвядзенні ў Курапатах помніка «Пакутнікам Беларусі». Арганізатары плануюць прымеркаваць яго адкрыццё да 81-й гадавіны БНР.**

Яшчэ ў 1988 годзе Савет Міністраў БССР прыняў спецыяльную пастанову аб устаноўцы ў Курапатах помніка ахвярам палітычных рэпрэсіяў. І таму аргкамітэт лічыць, што ніякага спецыяльнага дазволу ад уладаў на адкрыццё помніка браць не трэба. У склад аргкамітэта ўвайшлі такія арганізацыі, як «Мартыралог Беларусі», «Хрысціянская злучнасць «Курапаты», «Клуб Спадчына», Асацыяцыя ахвяраў палітычных рэпрэсіяў, дабрачынны фонд Крыжа Еўфрасінні Полацкай, а таксама паэт Рыгор Барадулін, гісторыкі Георгій Штыхаў і Леанід Лыч, іншыя вядомыя асобы.

Аўтар помніка, мінскі скульптар Алесь Міронччык, задумаў свой твор у форме крыжа св.Еўфрасінні вышынёй больш за тры метры, які будзе адліты з чыгуну і інкруставаны выявамі беларускіх святых. Знойдзены ўжо і адмысловы камень-валун пад пастамент. Аргкамітэт па ўзвядзенні помніка спадзяецца на дапамогу ахвярадаўцаў. Жадаючыя могуць пераводзіць сродкі на разліковы рахунак грамадскага аб'яднання «Спадчына» ў Партызанскім аддзяленні АКПСБ г.Мінска, код 386, р/р 30125002280013 з паметкай «На помнік «Пакутнікам Беларусі».

**Язэп СІНІЦКІ**

# Для праваабаронцаў – зачынена

**Праваабарончаму Цэнтру «Вясна-96» адмовілі ў памяшканні для прэзентацыі гадавога «Агляду» пра стан правоў чалавека ў Беларусі ў 1998 годзе.**

21 студзеня арганізатары звярнуліся ў кавярню былога Дома літаратара, што па вуліцы Фрунзе,5. Вядома, што з 1 сакавіка 1998 года распараджэннем прэзідэнта РБ Дом літаратара як культурная ўстанова спыніў сваё існаванне і набыў новы статус — «Административный корпус при ГХУ УД администрации президента». З таго часу ў кавярні змянілася некалькі гаспадароў. На сённяшні дзень гэта філія кафэ «Сем пятніц», якая штомесяц сплачвае арэнду на рахунак адміністрацыі прэзідэнта.

Адміністратар кавярні пагадзілася прадаставіць Праваабарончаму Цэнтру памяшканне, але прапанавала ўзгадніць гэтую справу з начальнікам корпуса спадарыняй Т.Гурко. Начальнік, у сваю чаргу, папрасіла напісаць гарантыйны ліст на імя начальніка Галоўнага гаспадарчага ўпраўлення Данільчанкі У.А., дзе ўказаць, што Цэнтр абавязваецца заплаціць арэнду за «тэатральнае фае» толькі таму, што ў кавярню можна патрапіць праз фае. Арганізатарам прэзентацыі такая акаличнасць падалася дзіўнай, таму што арандаваць збіраліся менавіта кавярню і грошы планавалі пераводзіць на рахунак кавярні. Але ж арганізатары пагадзіліся і на новыя ўмовы — перадалі гарантыйны ліст за подпісам старшыні Праваабарончага Цэнтра «Вясна-96» сп. Бяляцкага. Здавалася — усе справы былі вырашаны. Сп.Т.Гурко паабяцала схадзіць у адміністрацыю прэзідэнта і паставіць рэзалюцыю, а на наступны дзень паведаміць рашэнне і выпісаць рахунак.

Час ішоў, але ж ніякіх паведамленняў з былога Дома літаратара не паступала, і толькі на пяты дзень начальнік корпуса патэлефанавала ў Цэнтр і сказала, што ў адміністрацыі прэзідэнта ёй не далі дазволу на правядзенне прэзентацыі «Агляду» пра парушэнні правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь. Відаць, чыноўнікі, якія на працягу 5 дзён разглядалі заяву Цэнтра, палічылі, што ў РБ з правамі чалавека ўсё ў парадку. А, магчыма, яны вырашылі, што «Вясна-96» з'яўляецца апазіцыйнай арганізацыяй, і яе дзейнасць трапляе пад пастанову пракуратуры, у якой сказана, што дзейнасць па арганізацыі датэрміновых выбараў прэзідэнта Рэспублікі не адпавядае Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і дзеючаму заканадаўству. *«Такія дзеянні могуць расцэньвацца не інакш як спроба захопу дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам, намер дэстабілізаваць сітуацыю ў грамадстве, справакаваць масавыя беспарадкі»,* — гаворыцца ў заяве. Аўтары заявы папярэджваюць, што *«арганізацыя і ўдзел у такіх супрацьпраўных дзеяннях пацягне за сабой як крымінальную, так і адміністрацыйную адказнасць»,* і заклікаюць грамадзянаў Рэспублікі *«не паддавацца на правакацыйныя звароты арганізатараў такіх мерапрыемстваў, устрымацца ад удзелу ў іх правядзенні».*

Як вядома, праваабарончыя арганізацыі ва ўсім свеце займаюць нейтральную пазіцыю, а галоўнай задачай іх з'яўляецца абарона правоў чалавека незалежна ад таго, да якой партыі ён належыць.

У зусім недалёкім мінулым у кавярні Дома літаратара праводзілі імпрэзы людзі з рознымі арыентацыямі, і, здавалася, усім хапала месца, і ўсе заставаліся задаволенымі. Дарэчы, на прэзентацыю «Агляду» былі запрошаныя не толькі апазіцыянеры. Сярод запрошаных — журналісты як дзяржаўных, так і незалежных сродкаў масавай інфармацыі, прадстаўнікі праваахоўных органаў і праваабаронцы, а таксама людзі, якія на ўласным вопыце пераканаліся ў тым, як захоўваюцца правы чалавека ў Беларусі.

Насцярожвае ў гэтым выпадку наступнае: чаму апазіцыянеру забаронена наведваць кропкі «общепита»? Калі такая сітуацыя будзе працягвацца і надалей, дык чалавеку з апазіцыйнымі поглядамі будзе забаронена наведваць крамы і грамадскія прыбіральні.

**Мікола КАЧАН**

***P.S.** Нягледзячы на тое, што ў афіцыйных установах Праваабарончы Цэнтр атрымаў адмову, прэзентацыя «Агляду» адбудзецца у сераду, 3 лютага.*

# Строительство рыночного социализма в 1998 г.

Неутомимая деятельность главного прораба рыночного социализма и его подручных на поприще обеспечения народа счастливой жизнью привели к давно предсказанным результатам. Сегодня страна заняла почетное место по уровню жизни населения, опередив лишь некоторые африканские и азиатские страны.

Потребительские цены в соответствии с официальным индексом цен за декабрь увеличились на 21,7%, а с начала года — в 2,8 раза. Запланированные президентом 4% роста в месяц или 60% за год превышены более чем в три раза. В то же время среднемесячная заработная плата в целом по экономике за год увеличилась с 3.024 тыс. рублей в январе до 8.008 тыс. рублей в декабре, или в 2,6 раза, то есть чуть меньше, чем цены. Долларовый эквивалент среднемесячной заработной платы по курсу Национального банка также демонстрировал исправный рост. Правда, с июня он стал несколько снижаться. Однако в октябре в связи с увеличением минимальной заработной платы до 350 тыс. рублей он снова возрос *(верхняя линия на рис.1)*.

Противники режима утверждают, что курс Национального банка устанавливается административными методами и поэтому не отражает реального соотношения валют. Дескать, это делается для того, чтобы близкие к президенту структуры могли по дешевке скупить твердую валюту. Но расчет долларового эквивалента даже по свободному рыночному курсу показывает его успешный рост в начале и в конце года. И пусть за год он сократился на 40 долларов, то есть более чем в два раза, но зато тенденция последнего квартала года приятно радует глаз *(нижняя линия на рис.1)*. Забота властей о народе проявляется и в том, что за истекший год дважды повышалась минимальная заработная плата. И пусть трудности с бюджетом не позволили поднять ее на достойный уровень, но тем не менее в декабре ее величина после всех повышений составила 8,4% от прожиточного минимума или 5,0% от минимального потребительского бюджета. И хотя с начала года минималка сократилась с 6,0 до 1,8 доллара, ничего страшного не произошло, поскольку относительно уменьшилась величина штрафов и различных пошлин, размер которых зависит от нее. При этом тариф первого разряда, от которого зависит размер оплаты труда всех бюджетников, вместе со всеми доплатами и индексацией составил 20,2% минимального потребительского бюджета, сократившись с 15,6 доллара в январе до 4,8 доллара в декабре.

Пересчет тарифных ставок в долларовый эквивалент по рыночному курсу показывает некоторое снижение тарифной заработной платы *(табл.1)*. Однако это — происки внешних и внутренних врагов, которые мешают президенту до конца осчастливить население. Не обошлось здесь и без вредительства со стороны чиновников-бюрократов, которые или не умеют, или не хотят претворять в жизнь идеи нашего всенародноизбранного. Поэтому совершенно неправы лидеры профсоюзов, возмутившиеся низкими, на их взгляд, размерами октябрьского повышения заработной платы и наметившие провести в декабре акции протеста против падения жизненного уровня. Стоило только ответственным работникам из администрации президента выехать на отдельные крупные заводы и непосредственно на местах повысить заработную плату трудовым коллективам, как те сразу отказали профсоюзам в поддержке и не вышли на улицу.

Конечно, не все у нас так хорошо, как в сфере заработной платы. Некоторые проблемы пока не удается преодолеть, например, в деле обеспечения ветеранов пенсиями. Номинальная начисленная среднемесячная пенсия с января по декабрь увеличилась с 1.238 до 2.580 тыс. рублей, то есть в 2,1 раза, что лишь немного ниже официальных темпов инфляции. Если судить по графикам *(рис.2)*, то долларовый эквивалент среднемесячной начисленной пенсии, рассчитанный по курсу Национального банка, с начала года сократился на треть. И хотя по рыночному курсу это сокращение еще выше — на 63,3%, зато сегодня президент и правительство смогли выделить среднему пенсионеру за его многолетний труд 0,37 доллара в сутки, что, к сожалению, ниже установленного ООН порога бедности, равного одному доллару в день. Это яркий пример заботы руководства страны о тех, кто безоговорочно поддерживает его на выборах и референдумах. Важный показатель уровня жизни — минимальный потребительский бюджет, определяющий сумму денег, необходимую для простого воспроизводства рабочей силы, — с начала года увеличился с 2,4 до 7,0 млн. рублей, или в 2,9 раза, что заметно выше официальных темпов инфляции. Эту же тенденцию демонстрирует и долларовый эквивалент этого бюджета, рассчитанный по официальному курсу: налицо его постоянный рост, за исключением третьего квартала и декабря *(верхняя линия на рис.3)*. Если же абстрагироваться от инфляции с помощью рыночного курса твердых денег, то становятся заметны все недостатки наших объявленных успехов *(нижняя линия на рис.3)*.

Таким образом, анализ социально-экономического развития рыночного социализма в нашей стране за истекший год дает все основания требовать от властей немедленного повышения заработной платы.

**А.СОСНОВ,**
*кандидат экономических наук, НИСЭПИ*

***Рис.1. Среднемесячная заработная плата в 1998г. (в долларах США)***




***Табл.1 Размеры тарифной заработной платы (с доплатами и индексацией) в 1998 г.***

| Разряд | январь | | сентябрь | | октябрь | | декабрь | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | т.руб. | $ | т.руб. | $ | т.руб. | $ | т.руб. | $ |
| 1 | 650.0 | 15.6 | 983.8 | 10.9 | 970.0 | 6.1 | 1151.2 | 4.8 |
| 3 | 805.0 | 19.3 | 1155.4 | 12.8 | 1075.0 | 6.7 | 1267.6 | 5.3 |
| 10 | 1240.0 | 29.9 | 1594.8 | 17.7 | 1736.0 | 10.9 | 1963.9 | 8.2 |
| 28 | 3240.0 | 78.1 | 3594.8 | 39.9 | 4536.0 | 28.4 | 4763.9 | 19.8 |

***Рис.2. Среднемесячная начисленная пенсия в 1998г. (в долларах США)***




***Рис.3. Минимальный потребительский бюджет (в долларах США)***




*Чытацкая думка*

## Президент России должен выучить белорусский

Уважаемая редакция! Обратиться в НАВІНЫ меня заставил один вопрос, упускаемый при всяческих, в том числе якобы и всенародных, обсуждениях судьбы союза Беларуси и России. Это вопрос языка. Не фигурирует он почему-то ни в проектах, ни в многочисленных подписанных межгосударственных соглашениях. Почему никому из политиков и юристов, готовивших документы по белорусско-российскому союзу, не пришло в голову отметить, что государственными или хотя бы официальными языками нового объединения являются белорусский и русский языки?! Практически каждый белорус свободно владеет языком «старшего брата», а вот великоросса, говорящего по-белорусски, представить тяжеловато. Почему, задаюсь я вопросом, Папа римский Иоанн Павел II приветствует католиков на двух десятках языков (в том числе и на белорусском), а из уст Ельцына либо российских демократов никогда не слышали мы ни «Дзякуй!», ни «Віншую!»?! Я уверен, — хотя некоторым это может показаться абсурдным, — что белорусский и русский языки следует признать в планируемом союзе государственными. А госчиновники от Смоленска до Находки должны изучить родственный язык и продемонстрировать его знание вместе с налоговой декларацией, чтобы сохранить за собой теплые насиженные кресла. А экзамены трэба было б найперш прыняць у тых бабуриных, хто больш за ўсіх крычыць пра братнюю дружбу і пнецца засядаць у мяркуемых саюзных установах!

**Владимир БУЛАВСКИЙ,**
*кузнец, г.Жодино*

## Наш «малодшы брат»

Толькі і чуеш ад кіраўнікоў краіны, што беларусы — «малодшыя браты» рускіх. Няўжо яны не разумеюць, што прыніжаюць не толькі сваю асабістую годнасць, але і годнасць цэлага народа? Асабліва гэта любіць падкрэсліць наш прэзідэнт у якасці найвялікшага камплімента Расіі. Дык ён жа гісторык, каму-каму, а яму належыць ведаць, што гэта не зусім так.

Якія ж мы «малодшыя», калі гісторыя сведчыць адваротнае: беларускія гарады Полацк (862 г.), Віцебск (974 г.), Тураў (980 г.) узгадваюцца ў летапісах прыкладна адначасова з Кіевам. У XI стагоддзі ўзніклі Брэст, Мінск, Орша, Лагойск, Друцк, Пінск, — значна раней, чым Масква (1147 г.). Вялікае Княства Літоўскае — старажытная дзяржава беларусаў — утварылася ў сярэдзіне XIII стагоддзя і да пачатку XV стагоддзя стала прызнанай у Еўропе добра арганізаванай дзяржавай са сваёй тэрыторыяй, арміяй, дзяржаўнай сімволікай і г.д. У той час Маскоўскае княства толькі-толькі фарміравалася — у сярэдзіне XIV стагоддзя пры Іване Каліце былі закладзеныя асновы Маскоўскага княства. І толькі да XVI стагоддзя пасля канчатковага вызвалення з-пад татара-мангольскага ярма (пры Іване III) склалася тэрытарыяльнае ядро будучай Рускай дзяржавы.

Дык хто з нас «малодшы», а хто «старэйшы» брат? Хіба толькі на той аснове, што рускіх болей, чым беларусаў? Тады і мовіць трэба «вялікі брат» і «малы брат», але і ў такім варыянце неяк няёмка сябе адчуваеш — нібыта мы нейкія недавумкі, недаросткі, нібыта не маем спадчыны, якою належыць ганарыцца. Паглядзіце, які адлуп даюць украінцы, калі іх спрабуюць абазваць «малодшым братам» рускіх. А мы ўсё нияк не падымемся з каленяў. Калі ж пачнем людзьмі звацца? І з рускім братам размаўляць на роўных, не губляючы свой нацыянальны гонар.

**З.А.МАКЕЕНКА,**
*г.Мінск*

*ПАМЯТКА ДЗЁН*



## Мне снятся президенты

Иногда мне снятся сны, которые исполняются до точностей, и те, которые снятся в праздник. За много лет убедилась в своих предсказаниях. Я верующая и политикой не занимаюсь, но, видимо, она меня донимает, пенсия была 25 дол., сейчас 10 дол. Первого президента я снила Горбачева, не смогла придумать, зачем он мне приснился, потом все стало ясно, что с ним произошло. 2 раза видела во сне Клинтона, сломал ногу и запутался в сексе. Ельцына снила аж три раза и все перед болезнями.

Нашего президента Лукашенко видела во сне 2 раза. 1. В ночь на 1 января 1997 г. В полусидячем виде, бледное угрюмое лицо, в черном костюме, голова запрокинута назад на восток. 2-ой сон. В ночь на 1 января 1998 г. На том же месте в полулежачем виде в черном костюме, черные туфли, большой нос, угрюмое бледное лицо и еще больше запрокинута назад на восток (хотя я Лукашенку считаю самым красивым президентом). Для меня сон ясный, комментировать не буду, и так все понятно.

7 января 1998 г. слышу во сне только голос на бел. мове «Беларусь, што дзеўка-прастытутка, ад якой усе адвярнуліся, яшчэ 2 гады так будзе». Через полгода уехали послы и мы в изоляции, я так разгадала голос во сне.

**Ніна МІТКЕВІЧ,**
*г. Мінск*

# Дрозды – лагерь

## 22 июня

В прошлом году 22 июня самолетом авиакомпании «Люфтганза» послы Великобритании, Германии, США, Франции, Греции, Италии покинули Республику Беларусь, отозванные своими правительствами в связи с требованием президента А. Лукашенко выселиться из посольских резиденций в Дроздах. Началась шестимесячная дипломатическая война, в ход пошли ссылки на Венскую конвенцию, на практику и традицию отношений к посольствам, звучали намеки о возможности разрыва дипломатических отношений с Беларусью, изоляции в европейском сообществе и т. п. Спустя шесть месяцев послы вернулись, им предоставлен месяц освободить свои резиденции от своих вещей. Так, во всяком случае, сообщается в печати. Не приехал, однако, американский посол, поскольку госдепартамент США пока не решил, как вести себя в этой ситуации.

Мировая известность, которую благодаря шумному скандалу получил номенклатурный поселок Дрозды, расположенный на окраине белорусской столицы, заставляет думать, что есть трансцендентная сила, иногда заинтересованная в торжестве истины. Потому что реальная проблема с Дроздами выходит далеко за видимую орбиту спора высокопоставленных бюрократов. И первый белорусский президент, и ряд посольств по воле случая или волею судьбы столкнулись на земле бывшего лагеря смерти.




## Август 1944

До 1991 года Дрозды были «летними дачами ЦК КПБ». Стоит заметить, что в этом качестве они существовали с довоенного времени. Когда началась война, то уже через неделю после захвата немцами Минска на территории Дроздов начал функционировать концлагерь. Схема лагеря впервые была опубликована в книге «Нацистская политика геноцида на территории Беларуси. 1941—1944 гг.» (Минск, 1983). Всего в Беларуси гитлеровцами было оборудовано 260 лагерей смерти, в которых команды СА и СС истребили около 1,5 миллиона людей. Это десятая часть от 14 миллионов, уничтоженных в 10.250 концлагерях, созданных нацистами по всей Европе. Лагерь Дрозды не входит в число крупных. Самым большим на Беларуси комбинатом смерти был Тростенец (третий после Освенцима и Майданека). Сведения о лагере в Дроздах звучали на Нюрнбергском процессе, куда были представлены Чрезвычайной Государственной комиссией по расследованию и установлению злодеяний немецко-фашистских захватчиков. В Дроздах расследование фактов истребления людей проводила комиссия в составе: председателя генерал-майора Героя Советского Союза Козлова В.И., ответственного секретаря Машкова Г.Н., членов тт. Арефьева, Бударина, Зверева, Крапивы, Кравцова, Лапша, Строкина, Стельмашонка, Лынькова М. Т. с участием академика Н.Н. Бурденко, экспертов, профессора судебной медицины доктора медицинских наук Смольникова В.М., профессора судебной медицины доктора медицинских наук Червакова В. Ф. Вот их заключение от 13 августа 1944 г.:

**«IV. Урочище Дрозды. Северо-восточнее концентрационного лагеря, находившегося на территории поселка Дрозды, обнаружена траншея-канава, в которой при раскопках в нескольких местах на глубине 0,5 м найдены останки трупов (черепа, кости, истлевшая одежда). Размеры траншеи — 400х2,5х2 м. По свидетельским показаниям, в траншее-канаве похоронены расстрелянные немцами советские граждане, привозившиеся сюда для экзекуции из гор. Минска, в количестве около 10 тысяч человек».**

(Документ опубликован в книге «Преступления немецко-фашистских оккупантов в Беларуси. 1941—1944.» Минск, 1965, № 116.)

Рядом с Дроздами, в Масюковщине, был лагерь смерти для военнопленных, известный как шталаг № 352. Теперь при дороге над братской могилой поставлен памятник, горит вечный огонь, хранится под стеклом книга с известными именами жертв. В Дроздах — ни огня, ни книги, ни памятного знака. В 1945 году дачная территория со стертыми следами лагерного использования была возвращена в пользование членов ЦК КПБ. И пребывала в таком качестве до 1991 года, когда вместе с прочими привилегиями у партноменклатуры был отнят и дроздовский комплекс. Большая огороженная территория, здания, инженерное обеспечение представляли собой недвижимость очень крупной стоимости. Бывшая резиденция Петра Мироновича Машерова в Дроздах, по мнению американского посла Суорца, **«отвечала самым высоким стандартам и даже для президента США слишком хорошая».**

## Смена номенклатуры

Какое-то время в Верховном Совете раздумывали, как с этой недвижимостью обойтись. Оппозиция БНФ предлагала передать парткомплекс в Дроздах под оздоровительный лагерь чернобыльским детям. Но плохо одетые, голодные и небезопасные для окружающих в радиоактивном отношении дети мало соответствовали помещениям «самого высокого стандарта». Предложение было отклонено, и сейчас можно сказать — слава Богу! Верховный Совет, придерживаясь банальной мудрости, что здоровые и богатые лучше, чем бедные и больные, обратил прагматический взор на иностранцев. Лучше всех в данном вопросе осведомленный бывший Председатель Верховного Совета Станислав Шушкевич рассказывал журналистам:

**«После объявления независимости Беларуси мы решили разместить там заграничные представительства. Они за свой счет делали ремонт и реконструкцию зданий. Потом я был, например, в резиденции французского посла, которая превратилась в маленький Париж. Немцы очень серьезно поработали над оборудованием и дизайном, сделали комфортное посольство. Большие деньги вложили также итальянцы, их первый посол даже собрал там приличную коллекцию картин. Очень уютно стало и в американской резиденции... В бывшей моей резиденции, ... теперь живет президент Лукашенко... Когда мы с женой смотрели эту резиденцию, то решили, что из этических соображений жить там нельзя. Зачем нам на троих 560 кв. метров жилой площади. Там три уровня, внизу большой бассейн, сауна, спортивные помещения, очень много спален и разных комнат. Несколько раз я использовал эту резиденцию для заседаний Президиума Верховного Совета в неформальной обстановке, но ни одной ночи не ночевал. Там же я встречался с рядом послов для серьезных разговоров в неформальной обстановке».**



Но вот в один из дней в комплекс из «маленьких Парижей», «уютных комфортных» домиков, дорожек, по которым бегали воспитанные собачки и гуляли «неформальные» гости, въехал бронированный автомобиль А. Г. Лукашенко. В отличие от экс-спикера президент Беларуси не мучился гамлетовским вопросом «Жить или не жить по ночам?» Лукашенко решил, что должен стабильно жить там, где традиционно после войны жили главные руководители Беларуси — первые секретари ЦК КПБ. Соответственно статусу «правительственной резиденции» в Дроздах имели дома председатель палаты представителей Национального собрания и премьер-министр. Когда в июне 1998 года А.Лукашенко придал комплексу статус резиденции президента, он оказался единственным полноправным жителем «Дроздов».

Уместно вспомнить, что подобным образом решался вопрос и с бывшим зданием ЦК КПБ в Минске. После выселения партийных работников здание пустовало столько дней, сколько потребовалось Верховному Совету, чтобы заглушить слабый шепот совести, которая подсказывала отдать здание детям или больным, или деятелям науки и искусства, или под читальные залы Национальной библиотеки. Но все это не соответствовало «высоким стандартам» и географическому положению белорусской «Бастилии». Соответствовали, разумеется, депутаты Верховного Совета. Можно смело говорить, что это решение завершило демократические преобразования в республике, показав банальную перемену физических лиц в креслах власти. Неудивительно, что Верховный Совет не получил даже тени уважения от народа, и мало кто огорчился, когда его из этой крепости выставило президентское решение. И содержание и форма после недолгой деформации начали возвращаться в стабильное авторитарное состояние.

Появление Лукашенко в Дроздах неизбежно означало конфликт. Было неизвест-

БІБЛІЯТЭКА ЦІКАЎНАГА

# Беларускія асэнсаванні

**Дзякуючы руплівай працы даследчыка Юрыя Гарбінскага, усё найбольш значнае ў нацыянальным пытанні сабрана ў складзенай ім анталогіі «Беларуская думка. XX стагоддзе. Філасофія, рэлігія, культура», выдадзенай у Варшаве Інстытутам славістыкі Польскай Акадэміі навук у 1998 годзе.**

Адкуль беларусу даведацца пра тое, што меркавалі і мяркуюць дзеячы ягонай уласнай культуры і палітыкі пра культурна-цывілізацыйныя асновы свайго этнасу, пра ключавыя фактары і этапы фармавання нашай нацыянальнай самасвядомасці? Пра тое, чаму і як узнікла рэлігійная раз'яднанасць беларусаў і чаму ўсё-ж такі яны, нягледзячы на гэта, адчуваюць сябе беларусамі?

Усё, што пісалі нашыя культуролагі, філосафы, палітыкі, культурныя дзеячы на працягу гэтага стагоддзя, параскідана па розных газетах, часопісах, зборніках артыкулаў і дакладаў на канферэнцыях, рэдка калі па асобных выданнях. Частка гэтых дзеячаў загінула ад рук карных органаў савецкай улады (Ф.Акінчыц, М.Гарэцкі, В.Іваноўскі, П.Каравайчык, Я.Лёсік, А.Луцкевіч, А.Станкевіч, А.Уласаў, А.Цвікевіч, М.Шкялёнак ды іншыя) або яе актывістаў (Р.Скірмунт), ці была знішчаная гітлераўцамі (В.Гадлеўскі).

Юры Гарбінскі сабраў у анталогію беларускай думкі XX стагоддзя працы шасцідзесяткаў аўтараў, якія пісалі пра сваю нацыю, — ад Антона Луцкевіча да Юрыя Туронка. Нягледзячы на год напісання, шматлікія працы і дасюль актуальныя. Так, артыкул А.Луцкевіча «Беларусы і Расея» (1918) перагукаецца з артыкуламі Альбіна Стэповіча «Фактары асіміляцыйнага працэсу» (1933) і Зянона Пазьняка «О русском империализме» (1993) і інш. Тое, што пісаў І.Канчэўскі ў эсэ «Адвечным шляхам: дасьледзіны беларускага сьветапогляду» (1921), і тое, што сказаў Ул.Конан у рэфераце «Беларуская нацыянальная ідэя: гістарычны аспект і сучасныя праблемы» (1997) або Юрый Хадыка ў артыкуле «Беларуская нацыянальная ідэя на мяжы двух стагоддзяў» (1995), прысвечаныя аднаму і таму ж пытанню.

Аўтары сабраных у кнізе твораў не паддаліся спакусе культу «лявонніхі й лапця», пра які пісаў А.Стэповіч у 1933 г., паколькі добра разумелі, што гэты культ спраўкавалі асімілятары, — каб беларусы абмяжоўвалі сябе толькі этнаграфічнымі прыкметамі беларускасці і не тлумілі сабе галовы ў іхняй імперыі пытаннямі самаідэнтыфікацыі і разумовай працай.

**Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ,**
*старшыня Рады Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Санкт-Пецярбургу.*

НАШЫ БАЖНІЦЫ



АФІША

# Парыжанка Таццяна Ларына

Заўтра, 30 студзеня, на сцэне Тэатра оперы і балета ў спектаклі «Яўген Анегін» у ролі Таццяны Ларынай выступіць спявачка Фрэдэрык Адэд. Гэтая маладая парыжанка праходзіць стажыроўку ў Беларускай оперы, мінская публіка у лістападзе ўжо бачыла яе ў оперы «Кармэн» (партыя Мікаэлы).

Разам з сваёй вучаніцай у спектаклі «Яўген Анегін» возьме ўдзел Мікіта Старажаў (партыя Грэміна). Гэты спявак стала жыве ў Парыжы і жартам называе сябе «інтэрнацыянальны бас». У свой час М.Старажаў з'яўляўся салістам Вялікага тэатра Расіі, а цяпер не толькі выступае на оперных сцэнах свету, але і рыхтуе маладых спевакоў. Ягоныя вучні розных нацыянальнасцяў, але М.Старажаў прыкладае намаганні, каб у творах класічнага рускага опернага рэпертуару яны спявалі на рускай мове.

Як нам паведамілі ў тэатры, у праграме стажыроўкі Фрэдэрык Адэд будзе яшчэ адна роля – таксама ў класічнай рускай оперы «Пікавая дама».

Таксама ў Тэатры оперы і балета можна пабачыць «Рамэо і Джульету» (29 студзеня), дзіцячую оперу «Кот у ботах» (31-га, раніца), «Лебядзінае возера» (31-га, вечар) і «Пікавую даму» (2 лютага).

Рускі тэатр запрашае пабачыць славутых «Ваўкоў і авечак» рускага класіка Астроўскага (29 студзеня і 3 лютага), «Трагічную аповесць пра Гамлета, прынца Дацкага» (30-га), «Свабодны шлюб» (31-га). У нядзелю, 31 студзеня, таксама пройдзе дзіцячы спектакль «Таямніца чароўнага гарышча», а на Малой сцэне – «Рулетка» паводле Дастаеўскага. А новы месяц, люты, у Рускім тэатры пачнецца з прэм'еры – 2 лютага на Малой сцэне пройдзе «Альпійскае зззянне» паводле Турыні.

Дарэчы, з героямі Фёдара Дастаеўскага можна сустрэцца далёка не ў адным гэтым спектаклі. Нядаўна на сцэне Тэатра імя Янкі Купалы адбылася прэм'ера – «Вечны Фама». П'еса была напісаная У.Бутрамеевым па матывах вядомай аповесці Дастаеўскага «Сяло Сцяпанчыкава і ягоныя жыхары». Гэты прэм'ерны спектакль вы можаце пабачыць на Купалаўскай сцэне 29 і 30 студзеня, а таксама 3 лютага. 31 студзеня купалаўцы прапануюць пагледзець «Паўлінку» (11:30) і «Інтымны тэатр Міровіча» (19:00). 1 лютага пройдзе народная драма «Страсці па Аўдзеі», а 4 лютага – «Касцюмер», таксама драма, але замежная. Бліжэйшыя спектаклі Малой купалаўскай сцэны — «Крывавая Мэры» (30 студзеня) і «Чароўная ноч» (31 студзеня).

У тэатры «Вольная сцэна» 29 і 30 студзеня, а таксама 4 лютага пройдзе «Апошняя пастараль» паводле Алеся Адамовіча, 31 студзеня – «Барбара Радзівіл», 2 лютага – «Узлёт Артура Уі...». У Маладзёжным тэатры, амаль як на Брадвеі, кожны дзень «круцяць» адзін і той жа спектакль: «Прымакі» па п'есе Янкі Купалы (але на сучасны лад) можна пабачыць 30 і 31 студзеня, а таксама 2 і 3 лютага.

## Кіно

У сталічным Палацы культуры прафсаюзаў працягваецца паказ фільмаў маладых французскіх кінематаграфістаў. 1 лютага вы можаце пабачыць работу Анн Фантэн пад назвай «Агюстэн» (1995) – пра маладога чалавека, якому пашанцавала здымацца ў тэлесерыяле разам са славутым Т'еры Лермітам (дарэчы, гэтая зорка французскага кіно іграе ў фільме самога сябе). 2 лютага ёсць магчымасць паназіраць за жыццём французскай моладзі ў фільме «Узрост магчымасцяў» (1996, рэжысёр Паскаль Феран). Завершыцца кінапаказ 3 лютага стужкай Жана Франсуа Рышэ «Месца здарэння» (1995). Крытыкі гавораць, што гэтая карціна — «узрыўны маналог у стылі «рэп» пра жыццё моладзі гарадскіх ускраін».

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**

## 6 СУБОТА

**БТ**
**08.00** Континент. **08.15** Столица. **08.40** Потребительская корзина. **09.00** Новости. **09.10** «Шесть снежных дней». Х/ф. **10.15** «Сегодня с вами...» Заслуженная артистка Беларуси Нелли Богуславская. **10.40** Здоровье. **11.05** Вершина мира. **11.30** «Око». **11.55** «Все нормально, мама!» **12.30** Сущность. **13.00** «Легенда о Вильгельме Телле». **13.55** Родовод. **14.25** Олимп. **15.00** Новости. **15.10** Уроки Н.Новожиловой. **15.35** Познай себя. **16.00** Мультфильмы. **16.50** «Это моя работа». **17.25** Греко-римская борьба. Чемпионат Беларуси. **18.05** «Марица». Х/ф. **19.10** Приглашение. **19.40** «Из достоверных источников». **20.05** Бездельник. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.40** Спортлото. **21.50** «Полицейские». Х/ф. **23.30** Белорусский хит-парад. **23.45** Видимо-невидимо.

**ОРТ**
**06.55** «Ипподром». Х/ф. **08.25** Домашняя библиотека. **08.45** Слово пастыря. **09.00, 14.30, 17.00** Новости. **09.15** «100%». **09.45** «Утренняя почта». **10.20** «Каламбур». **10.50** Смак. **11.10** Возвращение Третьяковки. **11.40** «Добро пожаловать, или Посторонним вход воспрещен». Х/ф. **12.55** Биатлон. Чемпионат мира. 10 км. Мужчины. Конькобежный спорт. Чемпионат мира. Многоборье. **14.25, 01.45** Программа передач. **14.45** В мире животных. **15.25** Умники и умницы. **15.55** «По следам бременских музыкантов». **16.20** Как это было. **17.15** КВН-ассорти. **17.50** «Ералаш». **18.20** «Ресторан господина Септима». Х/ф. **20.00** Время. **20.50** «Секретные материалы». **22.30** Мисс «Содружество-98». **23.30** Новости спорта. **23.45** «Месть викинга». Х/ф. **01.15** Конькобежный спорт. Чемпионат мира.

**РОССИЯ**
**7.00** «Стрекоза и муравей». **07.10** «Осенние колокола». Х/ф. **08.25, 00.22** Прогноз погоды. **08.30** Мультфильм. **09.00** Доброе утро, страна. **09.50** «Сто к одному». **10.30** Любовь с первого взгляда. **11.00** Подиум д'арт. **11.30** Домашние хлопоты. **12.00** «Неделя в Санта-Барбаре». **13.00, 19.00** Вести. **13.35** 75 лет газете «Вечерняя Москва». **14.55** 50 х 50: Буду звездой! **16.05** Биатлон. Чемпионат мира. 7,5 км. Женщины. **17.00** Моя семья. **18.00** Сиреневый туман. **19.30** «Му-му». Х/ф. **21.25** «От всего сердца». Х/ф. **23.10** Скорость. **23.25** Горячая десятка.

**КУЛЬТУРА**
**09.00, 21.20** Программа передач. **09.05** Погода. **09.10** «Читая Библию». **09.20** Парадоксы истории. **09.50** Книжный кладезь. **10.00** «Наобум». **10.30** Биатлон. Чемпионат мира. Женщины (7,5 км). **12.00** «Третья Мещанская». Х/ф. **13.29** Азбука. **13.30, 21.00** Новости культуры. **13.45** Школа А.Васильева. Платон. «Государство». **14.55** «Цветная эмаль». **15.10** «XX век в кадре и за кадром». **16.00** «2003». **16.05** «Очевидное — невероятное. Век XXI». **16.30** «Открытие таланта». **17.00** Новости. **17.05** Международное обозрение. **17.45** «Коллекция». **18.00** «Судьба, судьбою, о судьбе». **18.45, 19.45** Юбилейный вечер Е.Максимовой. **19.30** Чудо-сказка. **20.30** «Кто там...» **20.59** Азбука. **21.25** «Пегий пес, бегущий краем моря». Х/ф. 1-я с. **22.30** Ш.Гуно. «Вальпургиева ночь». **22.50** Блеф-клуб.

**НТВ**
**07.00** «Битлджус». **07.30** «Сувенир для прокурора». Х/ф. **09.00, 11.00, 15.00, 18.00, 21.00** Сегодня. **09.15** «Чистосердечное признание». **09.40** Впрок. **10.00** «Пойми меня». **10.30** «Старый телевизор». **11.15** Профессия — репортер. **11.30** Своя игра. **12.00** Хоккей. «Крылья Советов» (Москва) — «Ак Барс» (Казань). **14.30** «Русский век». **15.20** «Она написала убийство». Х/ф. **16.15** Суд идет. **17.00** Дог-шоу. **17.30** Герой дня без галстука. **18.40** «Кто есть кто». Х/ф. **20.30** «Итого». **21.45** «Бабник». Х/ф. **23.00** Ток-шоу «Про это». **23.40** Программа передач.

**НТВ+**
НАШЕ КИНО
**09.00** Сегодня в программе. **09.05** «Карантин». **10.20** «Шестой». **11.40** Обратная точка. **11.50** «Любимая женщина механика Гаврилова». **13.05** «Дядюшкин сон». **14.30** «Ольга и Константин». **15.35** «Песни моря». **17.00** «Семь нянек». **18.15** «Приезжая». **19.50** «Тайны мадам Вонг». **21.15** «Прохиндиада, или Бег на месте». **22.40** Завтра в программе.

МИР КИНО
**09.30** Сегодня в программе. **09.35** «Школьный учитель». Д-13. **10.20** «Их собственная лига». Д-13. **12.25** «Горбун из Нотр-Дам». **14.05** «Домашний арест». С. **15.50** «Фарго». Д-17. **17.30** «Родс». 1-я с. Д-13. **18.20** «С меня хватит!» Д-17. **20.10** «Заряженное оружие 1». Д-13. **21.35** «На закате». Д-17. **23.35** «Имитатор». Д-17.

СПОРТ
**08.00** Новости. **08.10, 11.10** Аэробика. **08.35, 14.10** Урок настольного тенниса. **08.40** Тайский бокс. **09.25** Неделя НХЛ. **10.25** «Щит и мяч». **11.00** Новости. **11.35, 19.50** Горнолыжный спорт. **14.00** Новости. **14.30** Хоккей. Детройт Ред Уингз» — «Колорадо Эвеланш». **17.00** Новости. **17.10** Программа передач. **17.15** Викторина Бена Уайдера по бодибилдингу. **17.20** Хроника автомобильных аварий. **18.35** Большой ринг. **21.10** Спорт-коктейль. **21.40** «По всем правилам». **21.55** Футбол. Чемпионат Испании.

**8-Й КАНАЛ**
**15.00** Джойс Майер «Жизнь в слове». **15.30** Музыкальная программа. **16.00** «Никогда не говори никогда». Х/ф. **18.15** Мультфильм. **19.30** Телемагазин. **19.45** «Психопат». Х/ф. **21.15** Вечарніца. **21.30** Как прекрасен этот мир. **21.45** «Его ложь». Х/ф.

## 7 НЯДЗЕЛЯ

**БТ**
**08.00** «Города мира». Д/ф. **08.30** «Сколько нас в Беларуси». **08.40** Потребительская корзина. **09.00** Новости. **09.15** Мультиклуб. **09.50** «Я рисую». **10.05** Туробъектив. **10.30** «Все нормально, мама!» **11.05** Международные спортивные новости. **11.30** Арсенал. **11.55** Телевизионный Дом кино. **12.35** Белорусский дом. **13.05** «Легенда о Вильгельме Телле». **14.00** Сельчане. **14.25** Золотые ключи. **15.00** Новости. **15.10** «На волне взаимопонимания». **16.00** Мини-футбол. Чемпионат «Фанлиги». **16.50** Зорная ростань. **17.20** Телебарометр. **17.40** «Зимородок». Х/ф. **18.55** Теленавигатор. **19.15** Стадион. **19.40** Колыбельная. **20.00** Резонанс. **20.50** «Карамболь». **21.25** «Характер». Х/ф. **23.30** Премьера песни. **23.40** Автопарк. **23.50** Бархатный сезон.

**ОРТ**
**06.55** «Неприятности с мартышкой». Х/ф. **08.30** «Русалочка». **09.00, 14.00** Новости. **09.15** «Непутевые заметки». **09.30** Пока все дома. **10.05** Утренняя звезда. **10.55** Биатлон. Женщины. Конькобежный спорт. Чемпионат мира. **12.00** Играй, гармонь любимая! **12.35** «Все путешествия команды Кусто». **13.25** Смехопанорама. **14.15** Клуб путешественников. **15.05** «Симфонические тайны». **15.30** «Спартак» — чемпион! **16.00** «Тимон и Пумба», «Аладдин». **16.55** «Жизнь замечательных людей». **17.30** «Колесо истории». **18.20** «Самая обаятельная и привлекательная». Х/ф. **20.00** Время. **20.35** «Закон Коломбо». Х/ф. **22.20** Новости культуры. **22.35** «Марыся и Наполеон». Х/ф. **00.20** Конькобежный спорт.

**РОССИЯ**
**07.00** Мультфильмы. **07.30** Служу Отечеству! **08.00** Прогноз погоды. **08.05** Мультфильмы. **08.30** Почта РТР. **09.00** Доброе утро, страна. **09.30** Сам себе режиссер. **10.00** «Аншлаг». **10.25** «Городок». **11.00** Русское лото. **11.40** Мир книг. **12.00** «Неделя в Санта-Барбаре». **13.00** Вести. **13.30** Федерация. **14.15** Парламентский час. **15.15** Биатлон. Мужчины. **16.00** Диалоги о животных. **17.00** «Неизвестная звезда». **18.00** Совершенно секретно. **19.00** Зеркало. **20.00** «Какая чудная игра». Х/ф. **21.45** «Персона». **22.45** Дежурная часть. **23.10** «Европа». Х/ф. **01.00** Прогноз погоды.

**КУЛЬТУРА**
**09.00, 23.20** Программа передач. **09.05** Погода. **09.10** «Читая Библию». **09.20** Консилиум. **09.45** Мультфильм. **10.35** В тридевятом царстве. **11.05** Экспедиция «Чиж». **11.30** «Дворянские гнезда». **11.55** «Золотая вервь». **12.25, 13.45** Дж.Пуччини. «Тоска». **13.29** Азбука. **13.30, 21.00** Новости культуры. **15.10** Док. фильмы. **16.10** «2003». **16.15** Телесуфлер. **16.35** «Петербургские портреты». **17.00** Новости. **17.05** «Про фото». **17.30** Д.Самойлов. «Сон о Ганнибале». **18.00** «Судьба, судьбою, о судьбе». **18.45** Чудо-сказка. **19.00** «Актер и время». **19.55** П.И.Чайковский. «Времена года». **20.30** «С потолка». **20.59** Азбука. **21.20** «Невинная история». **21.35** «Пегий пес, бегущий краем моря». Х/ф. 2-я с. **22.40** «Джаз: тема с вариациями».

**НТВ**
**07.00** «Антон Иванович сердится». Х/ф. **08.20** Мультфильм. **08.30** Старый телевизор. **09.00, 11.00, 15.00** Сегодня. **09.15** «Подсудимый». Х/ф. **10.45** Мультфильм. **11.15** Большие деньги. **11.35** «Карнавал». Х/ф. **14.05** Жизнь замечательных зверей. **14.30** «Русский век». **15.30** «Ключи от форта Байяр». **16.40** «Арина». **17.30** Итоги. Предисловие. **18.00** «Операция отряда «Дельта». Х/ф. **19.45** Куклы. **20.00** Итоги. **21.00** «Ее звали Никита». **22.00** Итоги. Ночной разговор. **22.35** «Затмение». Х/ф.

**НТВ+**
НАШЕ КИНО
**09.00** Сегодня в программе. **09.05** «Все наоборот». **10.10** «Семь нянек». **11.25** «Приезжая». **13.00** «Тайны мадам Вонг». **14.25** «Прохиндиада, или Бег на месте». **15.50** «Вакансия». **17.00** «Чучело». **19.00** «Последний дюйм». **20.25** «Зимний вечер в Гаграх». **21.50** «Учительница первая моя». Д-17. **22.40** Завтра в программе.

МИР КИНО
**09.30** Сегодня в программе. **09.35, 18.15** «Родс». 1-я и 2-я с. Д-13. **10.25** Крупный план. Майкл Дуглас. **10.45** «С меня хватит!» Д-17. **12.35** «Заряженное оружие 1». Д-13. **14.00** «На закате». Д-17. **16.00** «Багси». Д-17. **19.05** «Месть пернатого змея». Д-17. **20.55** Мотор! На съемочной площадке фильма «Плутовство». **21.00** «Плутовство». Д-17. **22.35** «Урожай». Д-17. **00.10** «Запретные игры». Д-17.

СПОРТ
**08.00** Спорт-коктейль. **08.30, 11.20** Аэробика. **08.55** Хоккей. «Нью-Джерси Дэвилз» — «Торонто Мэйпл Ливз». **11.10** Новости. **12.00** Футбол. Чемпионат Испании. **14.00** Новости. **14.10, 19.50** Горнолыжный спорт. **15.15, 21.35** «По всем правилам». **15.25** Футбол. Чемпионат Италии. **17.20** Новости. **17.30** Шахматное обозрение. **18.00** Фигурное катание. **21.00** Еще неделя позади. **21.30** Программа передач. **21.45** Хоккей. «Нью-Джерси Дэвилз» — «Торонто Мэйпл Ливз». В перерыве (23.00) Новости.

**8-Й КАНАЛ**
**15.00** Программа Рика Реннера. **15.30** «Шпион, который меня любил». Х/ф. **17.30** Коллекция 8-го канала. **19.15** Тайландский бокс. Россия—Беларусь. **19.45** «Катька и Шиз». Х/ф. **21.15** Вечарніца. **21.30** Новости «К-видео». **22.00** «Я знаю, что вы сделали прошлым летом». Х/ф.





© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 503 Нумар падпісаны ў друк 28/01/99 (15:00) Наклад — 22.100